Год I. Кастрычнік 1932 г. №10.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!



Ты еси Петръ,
И на семъ камени созижду церковь мою. Мат. ѕі. иі.

## БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН.

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:


1. Пакрава — Апекі Найсьвяцейшай Дзевы Марыі.— а. Антоні.
2. III Унійная Канфэрэнцыя ў Пінску. —
3. Урачыстасьць Усьпеньня Найсьвяцейшай Дзевы ў Альпені. — Злучэнец.
4. Наш сьцяг. — Надбужны.
5. Наш адказ. — Злучэнец.
6. Хроніка.
7. Усячына.



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода . . . . 2. зл.

„ год . . . . . 3. 50.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Кастрычнік. 1932 г. № 10.

## Пакрава — Апекі Найсьвяцейшай Дзевы Марыі.

(1 Кастрычніка).

(*Эван., як у № 9 на 8-га верасьня*).

*„О пресвятая Госпоже Дѣво Богородице, покрый ны чудеснымъ омофоромъ“...*

*(Свѣтиленъ).*

Сяньняшняе сьвята, сьвята Апекі Найсьвяцейшай Дзевы Марыі мае сваю гісторыю запачаткаваньня.

Гэта было ўжо даўно, у палове дзесятага стагодзьдзя. Сарацэны або інакш магамэтанцы напалі на грэцкі горад Царград. Вялікім войскам, як жалезным кальцом, абкружылі горад. Жыхаром пагражала вялікая нябясьпека, ня мелі сілы адкінуць ад гораду ворага. Не спадзяючыся ніскуль помачы, зьвярнуліся з гарачаю малітваю да Госпада Бога і Багародзіцы. Натоўп жыхароў сабраўся на малітву да Улахэрнаўскага храму, дзе хавалася рыза Найсьв. Багародзіцы. І вось у часе Ўсяночнай сьв. Андрэй меў бачаньне, убачыў Багародзіцу Дзеву, Якая малілася за ўсіх хрысьціян і пакрывала іх сваім омофорам (плашчом). Сьв. Андрэй, угледзіўшы гэтае дзіўнае зьявішча, пытаецца ў свайго вучня Епіфанія: „бачыш ты Маці Божую, молячыся за ўсіх?“ „Бачу, сьвяты ойча“,—адказвае Епіфані, — „бачу і зжахаюся“. Вестка аб гэтым цудоўным бачаньні, як маланка, праляцела па ўсім горадзе. Жыхары Царграду, чуючы апеку Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, з новаю сілаю ўзяліся за абарону гораду, вораг хутка быў адкінуты ня толькі ад гораду, але зусім выгнаны з цэлага Грэцкага краю.

З удзячнасьці да Багародзіцы, грэкі пастанавілі сьяткаваць сьвята, што носіць назоў: „Апекі Найсьвяцейшай Дзевы Марыі“.

Ня толькі дзеля гэтага цудоўнага бачаньня, але галоўным чынам дзеля таго, што Найсьвяцейшая Дзева Марыя ёсьць Маткаю Самога Госпада Бога, а таксама і нашаю

Маткаю, якая вельмі любіць нас, мы хрысьціяне, заўсёды зварочваемся да Багародзіцы, як да нашай найлепшай апякункі і абароньніцы.

Як кожная маці заўсёды рупіцца аб сваім дзіцяці, мае яго ў сваёй апецы, не дапушчае, каб хто яго крыўдзіў, так сама і Найсьвяцейшая Дзева Марыя, Маці нашая наймілейшая, мае заўсёды нас у сваёй усемагутнай апецы, гатова заўсёды нас абараніць ад усякай напасьці ворагаў.

Мы, — злучаныя праваслаўныя або, як нас называюць, уніяты, — таксама можам быць перакананымі, што, як кожнага з нас паасобку, так сама і нашу сьвятую справу, сьвятое імкненьне да злучэньня, да уніі, як і самую унію, Найсьвяцейшая Дзева Марыя мае ў сваёй апецы.

Маці Божая, паводле бачаньня сьв. Андрэя, мае ў сваёй апецы ўсіх хрысьціян. Ці-ж ня добра было-б, каб усе хрысьціяне пад аднэй Маткай, пад яе матчынай апекай, ставілі адно, адну сям'ю. Ці-ж ня ёсьць гэта гарачым пажаданьнем сэрца Маці Божае, каб яе дзеці любыя, хрысьціяне, не сварыліся паміж сабою, жылі ў лучнасьці, злучаныя аднэй верай і любоўю, у аднэй сьвятой Царкве Хрыстовай?

Нашым таксама гарачым жаданьнем ёсьць, каб зьніштожыць разьдзел паміж хрысьціянамі, каб паўстала сьвятое злучэньне, сьвятая унія.

Па сусьветнай вайне пачала ўскрасаць даўная сьвятая унія, вера нашых дзядоў і прадзедаў. Як калісьці горад Царград быў абкружаны з усіх бакоў ворагамі, таксама і сьвятая унія апынулася паміж ворагамі, каторыя з усіх бакоў наступаюць на яе, жадаюць яе здушыць якнайхутчэй, каб з часам ня вырасла, не ўзмацавалася.

Кажу—з усіх бакоў, бо ня толькі нязлучаныя праваслаўныя, бароначы разьдзел царкоўны, вядуць барацьбу з сьвятою справай аб'яднаньня хрысьціян, але таксама і тыя, што ўжо маюць шчасьце належаць да сьвятой сусьветнай або каталіцкай Царквы, хаця і не аднаго з намі абраду. Самі належаць, аднак другім да гэтага шчасьця даступіцца перашкаджаюць.

Сунуць ворагі з усіх бакоў на ўваскросшую ў нашай староньцы сьвятую унію, злучэньне хрысьціян; не перабіраюць у способах, каб толькі асягнуць мэту, але мы можам спадзявацца, што, як калісьці Царыца Нябесная абараніла Царград, так і цяпер абароніць сьвятую унію ад яе ворагаў. Нам трэба толькі з вялікай надзеяй і горача маліцца да Найсьвяцейшай Багародзіцы, Яна напэўна выслухае нашу малітву.

Калі Найсьвяцейшая Дзева возьме нас і нашу сьвятую царкву ў сваю апеку, дык ня страшныя для нас будуць тады ворагі, ніякая сіла нас не пераможа.

„О пресвятая Госпоже, Дѣво Богородице, покрый ны чудеснымъ омофоромъ“...

*а. Антоні.*

# III Унійная Канфэрэнцыя ў Пінску.

30 і 31 жніўня і 1 верасьня с. г. адбылася ў Пінску III Канфэрэнцыя сьвяшчэньнікаў да справаў уніі.

Пачаў Канфэрэнцыю Я. Прав. Япіскап Букраба, выражаючы сваё жаданьне далей вясьці справу, пачатую яго папярэднікам сьв. пам. Япіскапам Ж. Лазінскім.

На самым пачатку забраў голас Я. Прав. Япіскап Пшэздзецкі, каторы толькі што прыбыў з Рыму і абвясьціў усім прысутным сваю гутарку з Сусьветным Архірэем Папаю Рымскім, якую падаём цалком ніжэй.

На Канфэрэнцыю прыехалі 2 мітрапаліты: Я. Прав. Архіяп. Ялбжыкоўскі і Я. Прав. Архіяп. Ропп,—было 3 япіскапаў: Прав. япіскапы: Мікалай Чарнэцкі, Казімер Букраба і Гэнрых Пшэздзецкі; сьвяшчэньнікаў было больш сотні. Было прачытана 5 рэфэратаў навуковага характару і 3 практычнага, з працы над злучэньнем нязлучаных праваслаўных.

З першае групы найбольшае ўражаньне зрабіў рэфэрат а. Урбана Т. І. на тэму: „Акцыя унійная а місія рэлігійная Польшчы". У гэтым рэфэраце аўтор выказаў, што не працаўнікі над злучэньнем праводзяць бізантынізм у нэгатыўным сэнсе (цэзарапапізм), але яе ворагі, бо, вядучы барацьбу проці сьвятой справы злучэньня хрысьціян у адну царкву, робяць гэта дзеля інтарэсаў дзяржаўных, вышэй за ўсё на сьвеце ставяць інтарэсы дзяржавы, а гэта і ёсьць чыстае вады бізантынізм (цэзарапапізм).

З трох практычных рэфэратаў 2 былі прачытаныя пабеларуску. Пабеларуску таксама некаторыя прамоўцы забіралі голас у дыскусіі. Пасьля практычных рэфэратаў завязалася вельмі гарачая дыскусія, шмат было аб чым падыспутаваць, нажаль не хапіла часу.

У адным рэфэраце аўтор дамагаўся назначэньня 2 эпархіяльных япіскапаў усходня-славянскага абраду: аднаго для украінцаў, а другога для беларусаў. Беларусы ня горшыя грамадзяне Польскае Дзяржавы, як расейцы, беларускаму народу робіцца крыўда, што яшчэ няма для беларусаў-уніятаў япіскапа іх абраду і мовы.

Канфэрэнцыя вынясла гэткія рэзалюцыі:

1) У дыскусіі адносна да бізантынізму трэба аддзяліць тое, што ў бізантынізьме, як культурнай форме, ёсьць добрае, ад таго, што пад гэтым назовам іншы раз бывае памылкова разумелае, перш за ўсё сыстэма цэзарапапізму, якую Канфэрэнцыя асуджвае і адкідае; 2) вяртаючыся да рэзалюцыі ранейшае канфэрэнцыі аб патрэбе унійнае літэратуры, сьцьвярджаецца неабходнасьць хуткага залажэнь-

ня часопісі ў польскай мове дзеля усьведамленьня грамадзянства аб мэтах і рэлігійнай істоце; 3) У унійнай акцыі зьяўляецца пажаданым карыстацца памоцнічымі дзейнікамі, як дыяканы, катэхістыя, псалтырыстыя, сёстры, вядзеньнем прытулкаў і прадшкольляў, тварэньнем арганізацыяў моладзі; 4) Сьцьвярджаючы з прызнаньнем і падзякаю падтрыманьне, якое унійная акцыя мае з боку значнае часьці лацінскага духавенства, даручаецца і далей гэтая акцыя апецы і помачы агулу духавенства; 5) Прасіць Найправялебнейшых Япіскапаў аб вызначэньні спэцыяльнага унійнага дня ў годзе, прысьвечанага усьведамленьню народу аб унійнай акцыі, малітве аб яе ўдачы і нявыключанаму матар'яльнаму падтрыманьню акцыі. Апрача таго Канфэрэнцыя выказала пажаданьні: 1) скліканьня чароднае канфэрэнцыі на другую палавіну верасьня будучага году, 2) абгаварэньня на будучай канфэрэнцыі тэмаў тайны пакуты і бізантынізму, 3) зьмешчаньня ў Памятніку Канфэрэнцыі ня толькі рэфэратаў, корэфэратаў і рэзалюцыяў, але і важнейшых мамэнтаў з дыскусіяў, якія ўносяць новыя думкі і дапаўненьні рэфэратаў; 4) выданьня ў постаці асобных рэфэратаў а. Урбана і кс. праф. Крэмэра дзеля шырэйшага іх распаўсюджаньня.

Заканчэньнем Канфэрэнцыі была ўрачыстая візантыйска-славянская служба, адпраўленая ў мясцовай катэдры Я. П. Япіск. М. Чарнэцкім пры концэлебры 8 сьвяшчэньнікаў, у акружэньні шматлікае асысты і ў прысутнасьці капітулы з Пр. Япіскапамі Букрабаю і Пшэздзецкім на чале, а таксама і кліру.

## Сьв. Айцец аб Царкоўнай Уніі.

**Прамова Япіскапа Падляскага на унійнай Канфэрэнцыі.** Я. П. Япіскап Пшэздзецкі сказаў гэткую прамову на адрыцьці 3-яе Канфэрэнцыі аб справе Царкоўнае Уніі ў Пінску:

„Восем дзён таму, 22 жніўня, сьв. Айцец Піус XI ласкава прыняў мяне на паўторнай канфэрэнцыі. На пачатку аўдыенцыі сьв. Айцец сказаў, што прачытаў мой пастырскі ліст „Аб унійнай працы ў Польшчы“ і знайшоў у ім у тэй часьці, якая кажа аб камісіі Pro Russia, гістарычную памылку і пэўныя недакладнасьці, а якраз:

1) Камісію Pro Russia паклікаў да жыцьця яшчэ сьв. пам. Бэнэдыкт XV, а ня Піус XI.

2) Дыскусіі проці Камісіі Pro Pussia вядуцца толькі ў Польшчы, больш іх нідзе няма.

3) Недакладным ёсьць выражэньне, што Яп. д'Гэрбіны утварыў царкоўную гіерархію ў Расеі, таму што царкоўную гіерархію можа тварыць толькі Апостальская Сталіца

4) Выражэньне пра перагаворы аб візантыйска-славянскім абрадзе ў сувязі з Камісіяй Pro Russia ёсьць крыху



*Учасьнікі III духоўніцкага унійнага Зъезду, які адбыўся 30 і 31 жніўня і 1 верасьня 1932 г. ў Пінску. У сярэдзіне Япіскапы: Ялбжыкоўскі, Ропп, Чарнэцкі, Пшэздзецкі і Букраба.*

абшырнае і можа ўвясьці ў памылку, быццам былі-б магчымымі якія-нібудзь перагаворы аб місіі Царквы, данай Царкве Хрыстом Госпадам,

Я падзякаваў сьв. Айцу за ласкава зробленыя мне ўвагі і заявіў, што не замаруджу якнайхутчэй падзяліцца імі з кім трэба.

Затым Папа пачаў гаварыць аб перашкодах, якія сустрачае унійная праца ў Польшчы, аб выступленьнях словам або пяром проці гэтае працы. Намесьнік Хрыста Госпада на зямлі, відочны Галава Царквы Хрыстовае, заявіў раз і другі і гэта якнайкатэгорычней, што тыя, хто выступае проці гэтае працы, не зьяўляюцца каталікамі, і дадаў, што нажаль у радох гэтых апошніх знаходзяцца і тыя, што належаць да духавенства. Сьв. Айцец шкадаваў аб гэткім стане рэчаў, аб сьлепаце тых, што выступаюць проці унійнае працы, аб шкоднасьці іхняга дзеяньня і сказаў, што кажа мне аб гэтым дзеля таго, каб я словы Айца Хрысьціянства паўтараў.

Надышла цяпер у часе аўдыенцыі ніколі незапамінальная для мяне мінута. — У Мэксыцы і Расеі ёсьць страшэнны гнёт Царквы, — кажа Папа і дадае: — „Атрымліваем пісьмы, якіх бяз сьлёз нельга чытаць. Вярнуліся часы катакомбаў, часы мучаніцтва“. Гляджу на прамоўцу і бачу сьлёзы ў Яго вачох. Бачу, як сэрца Яго абнімае цэлы сьвет і ўсіх людзей на ім. Чую, як гэтае сэрца стукае і баліць над цярпеньнямі чалавецтва. Чую, як маё сэрца тоне ў Яго сэрцы. І тут пакідаю казаць: „Сьвяты Ойча“, а пачынаю ўжываць звароту: „Вікары Хрыста Госпада“. Бачу ясна, што гэты Вікары Хрыста Госпада гатовы па прыкладу Ісуса Хрыста цярпець і памёрці, каб толькі палёгку прынясьці чалавечым цярпеньням, каб засланіць чалавецтва ад болю і гнёту. Гэтае мінуты ніколі не запомню, заўсёды за яе буду дзякаваць Богу.

Пасьля мінутнага маўчаньня пачынаю Вікарыя Хрыста Госпада цешыць, кажучы, што праца на унійным полі ў Польшчы разьвіваецца пастунова, ня гледзячы на вялікія труднасьці, што не паддамося ніякім перашкодам, што заўсёды хочам быць з Вікарыем Хрыста Госпада, што мы ёсьць і будзем заўсёды паслухмянымі Яму. Праз некалькі дзён, зазначаю, адбудзецца трэцяя Унійная Канфэрэнцыя ў Пінску. Вазьму ў ёй удзел. Канфэрэнцыі гэтыя пачаў с. п. Япіскап Жыгімонт Лазінскі, які жыў, як сьвяты, і памёр, як сьвяты. Наступнік памёршага Япіскапа будзе гэту вялікую справу вясьці далей. — Так, — сказаў Папа. Нованазначаны Япіскап Пінскі справе унійнай ёсьць адданы. Прыхіляючыся да мае просьбы, сьв. Айцец дае апостальскае багаслаўленьне трэцяй Пінскай Канфэрэнцыі на пладатворчую працу і даручае мне паведаміць аб гэтым Канфэрэнцыю.

Ваша Праасьвяшчэнства, Найдастойнейшыя Архіпастыры, Дастойныя Учасьнікі Унійнае Канфэрэнцыі, з найбольшаю радасьцю прыношу гэтае апостальскае багаслаўлень-

не. выпаўняючы гэтым дарагі мандат Айца Хрысьціянства. Хай будзе з нашай працаю апостальскае багаслаўленьне!

Аднак-жа прашу пазволіць, каб і ад сябе я колькі слоў сказаў. Прыбываю з Рыму ад Вікарыя Хрыста Госпада. Хрыстос — гэта любоў. Яго Вікары гэтаю любоўю жыве, любоўю цэлы сьвет абнімае. Мы прыбылі на гэтую салю ад труны с. п. Япіскапа Лазінскага, сьвяшчэннага Божага Слугі, поўнага любові. І мы, што працуем на унійным полі, калі хочам, каб праца нашая была ў духу Хрыста, заўсёды і ўсюды павінны кіравацца любоўю.

Любем усіх, ня гледзячы на тое, якой яны нацыянальнасьці, ня гледзячы на тое, ці яны ў адзінстве царкоўным з намі, ці не. Любем усіх, а любячы не шкадуйма працы, каб добра пазнаць навуку тых, якія ня ёсьць у Царкоўным адзінстве з намі, гэта палегчыць працу, інакш дык гэтая праца была-б блізка што й немагчымаю. Любем усіх, а любячы старáймася пазнаць варункі іхняга жыцьця, ня будзьма падобнымі да тых, што, прабыўшы напр. колькі дзён у Расеі, пішуць кнігі, чытаюць лекцыі аб Расеі, аб расейскай душы і г. д. Гэтыя людзі не выясьняюць справы, але хутчэй зацямняюць стан рэчаў і вядуць да памылак. Любем усіх, а любячы ня баймася ніякіх труднасьцяў і за найбольшыя, зробленыя нам, няпрыемнасьці адказвайма словам, поўным любові, чынам міласэрдзя.

Ваша Праасьвяшчэнства, Наступніча Сьвяшчэннага Япіскапа Жыгімонта, жадаю Вам і прашу Бога, каб кожная Унійная Канфэрэнцыя, якою будзеце кіраваць, што раз то больш давала пладоў і што раз то лепш прычынялася да Царкоўнага Адзінства.

---

# Урачыстасьць Усьпеньня Найсьвяцейшай Дзевы ў Альпені.

28 жніўня с. г. адбылася вельмі прыгожа ў Альпені, каля Давідгарадка, ўрачыстасьць Усьпеньня Найсьвяцейшай Дзевы Марыі. Гэтае сьвята Маці Божае з асабліваю ўрачыстасьцю сьвяткуецца ў Альпені: 3 дні людзі не працуюць, з усіх бакоў зьяжджаюцца, каб памаліцца ў царкве і таксама адведаць сваякоў або знаёмых.

Адносна да веры жыхары вёскі падзелены на злучаных праваслаўных або уніятаў і нязлучаных яшчэ, пакуль што, праваслаўных. Апрача таго ёсьць каля сотні ў вёсцы жыдоў і троха каталікоў лацінскага абраду.

Чалавеку, што першы раз заглянуў да Альпеня, кідаецца ў вочы, што тутка прым трымаюць уніяты; вельмі пры-

гожа адбываюцца набажэнствы, сьвятую Літургію правіла 3 сьвяшчэньнікі з дыяканам, сьпяваў добра хор і ў часе крэснага ходу добра іграла аркестра.

Увечары адбылося прадстаўленьне папольску і пабеларуску. Вельмі падабалася ўсім беларуская штучка: „Выбары старшыні". У гутарцы і сьпевах чуць праўдзіва беларускі куток.

У царкве нязлучаных праваслаўных, ня гледзячы на тое, што Альпень запраўды беларуская вёска, гаворацца пропаведзі парасейску. Гэта нікога ня дзівіць, маўчаць аб гэтым і нашыя няпрыхільнікі з боку польскіх нацыяналістаў, нікому і да галавы ня прыходзіць проці расейскасьці праваслаўных сьвяшчэньнікаў выступаць.

У уніяцкай царкве заўсёды бывае пропаведзь толькі пабеларуску. Дзякаваць Богу рэлігійнае жыцьцё ў Альпені добра разьвіваецца. Дасьць Бог у хуткім часе будзе там толькі адна царква, і адзін дух будзе ажыўляць усіх, дух сусьветнае Хрыстовае Царквы.

Пачаў працу над злучэньнем праваслаўных з праўдзівай Хрыстовай сусьветнай або каталіцкай царквой і цяпер яе вядзе ўжо 6 год а. Вячаслаў Аношка, сьвяшчэньнік паводле сэрца Хрыстовага, каторы цалком аддаўся на службу сьвятой царкве і для дабра беднага беларускага народу. Дай Бог, каб хутчэй зразумелі яшчэ нязлучаныя альпенцы яго шчырую любоў да іх і паддаліся пад яго кіраўніцтва.

Уніяцкая царква ў Альпені хаця не багатая, але вельмі мілая і прытульная. Адчуваюцца яшчэ ў ёй недахопы некаторых рэчаў, асабліва адчуваецца патрэба іканастасу, з часам яшчэ будзе прыгажэйшай, патрохі справіцца, што трэба.

Моладзь ужо ўсьвядомленая, гардзіцца тым, што мае шчасьце належаць да злучанай царквы, да уніі, але яшчэ не хапае ёй духу сусьветнае царквы. Паводле духу нашае царквы, моладзь, асабліва дзяўчаты, з любові да Хрыста стараецца часта прыймаць Яго ў сьв. Прычасьці, асабліва ў вялікія сьвяты, а моладзь альпенская відаць яшчэ гэтага не разумее. Зварочваю на гэты недахоп увагу, бо гэта найважнейшая рэч у часе фэсту. Натое зьяжджаецца шмат сьвяшчэньнікаў, каб усіх выспавядаць. Ня толькі для адпраўленьня ўрачыстае сьвятой Літургіі, але галоўным чынам спавядаць прыехалі на сьвята да Альпеня а. Язафат з Мерлінскіх Хутароў і а. Антоні з Альбэртына.

Саборная служба, працэсія, навукі, ўсё гэта, можна спадзявацца, зрабіла вялікае ўражаньне на жыхароў Альпеня, і напэўна паслужыць да паглыбленьня і пашырэньня сьвятой справы злучэньня хрысьціян у адну Хрыстовую сям'ю.

*Злучэнец.*

# Наш сьцяг.

Аб Далятычах, невялікай наднёманскай мясьціне ў Наваградчыне, даўней мала хто з далейшых аколіц чуў ды цікавіўся. А сяньня Далятычы ня толькі ня сходзяць з канца языка ўсіх, але і з газэтных балонаў.

Што-ж так уславіла гэну ўбогую мясьціну?

Ці тамака ўпаў з неба які мэтэор каштоўны і, рассыпаўшыся ў капіталы нязьлічаныя, нясчэрпаныя, вабіць агалелыя падчас сяньняшняга крызысу сярмяжныя масы?...

Ці фабрыка гіганцкіх разьмераў, могучая затрудніць сотні тысяч безработных, там адкрылася?...

Ці мо' любоў, праўда і справядлівасьць, перамогшы ненавісьць, ману і крыўду, урэшце засела на троне і ўзяла ў сваю ўладную апеку наш закінены народ?... Якое дзіва зрабіла Далятычы цікавымі і слаўнымі?

——

Сярод рынку, на абчастаколенай градцы кветак, стаіць высокі (дванаццацьмэтровы) прыгожы дубовы крыж. На тым крыжы стройна прыладжаны ўсходні касавік. А на тым касавіку далёкапрыкметны стылёвы славянскі напіс: **„Да вси едино будутъ“.**

Ці гэта мае быць тое далятыцкае вялікае дзіва? Усходні крыж з ведамым эвангэлічным напісам? — Усяго толькі? Што-ж тут новага і цікавага?

Так. Той крыж і той напіс-лёзунг, ёсьць тым дзівам сэнсацыйным, якое ўзварушыла бадай усю Наваградчыну. Дзіўны ня толькі сваімі разьмерамі, але перш за ўсё тым, што нейкаю таемнай моцай раптам зрабіўся ён цэнтрам жаданьняў людзкіх: мэтэорам каштоўным, толькі ня з неба спаўшым, а ў сэрцы ўласным знойдзеным; пристанішчам для безработных, але для тых безработных, якія перш за ўсё шукаюць працы над удасканаленьнем свае ўдачы; трыбуналам любові, праўды і справядлівасьці, дзе зложана найпэўнейшая зарука лепшае долі нашага краю...

Як, скуль і калі зьявіўся той цуд у сэрцы Далятыч? — паўстае чарговае пытаньне — дый чаму ў Далятычах зьявіўся ён, а ня дзе ў іншым месцы?...

——

Узьвіжаньне! Узьвіжаньне! Каму-ж з суседніх аколіц ня ведама гэна далятыцкае гадавое царкоўнае сьвята!?... Як царква — царквою, а прыход — прыходам, у Далятычах заўсёды на Узьвіжаньне ўрачысты рух, шум, гоман неперацічаных грамадаў веручых... Хто-ж усядзеў калі дома ў гэны сьветлы фэставы далятыцкі дзень!... Без разбору: права-

слаўныя, каталікі, татары, а на'т бедныя калекі баптысты лучаць братнія малітвы.

І радасьць у гэны райскі дзень на зямлі.

Але такога слаўнага Ўзьвіжаньня, як леташняе, ня помняць хіба і самыя найстарэйшыя далятычане. Такога бо асаблівага зацікаўленьня, такога ўздыму ідэйнага адраджэнскага духа, аставіўшага па сабе незацёртыя сьляды ўражаньня, ні ў якім іншым прыходзе ніколі не перажывалі хіба хрысьціяне!...

——

Праграмаю ўрачыстасьці было вачавіднае падвышэньне крыжа, таго крыжа, з якім чытач пазнаёміўся на ўступе.

На месцы пахілага, мохам абросшага, як і тое праваслаўе, якое рэпрэзэнтаваў, адбылося ўзьвіжаньне новага крыжа-сымболю, новага, адроджанага ў адзінстве веры і любові, хрысьціянства.

Запраўды, само толькі прыгатаваньне з такім чулым, дзейным і гарачым піэтызмам зробленае мясцоваю моладзьдзю, ужо пазваляе снаваць надзейныя думкі аб Далятычах і ў часьці разьвязвае пытаньне, чаму тут іменна, а ня ў іншым кутку нашай Бацькаўшчыны, суджана было нарадзіцца унійнай адраджэнскай ідэі хрысьціянства.

Перш за ўсё рэмонт царквы. Праведзены ён, можна сказаць, саматугам моладзьдзю, паслушнаю энэргічным сваім кіраўніком.

Эх, удальцы, хлопцы мае далятыцкія і дзяўчаткі! Душой ад'жываю на ўспамін перажытых з Вамі ясных хвілін ідэйнае працы!... Яшчэ і сяньня здаецца чую гукі звонкай музыкі ды раскаты бубна, акомпаньюючыя лётэрэйнаму разгару, падчас якога трасьліся недаступныя кішэні ашчаднага нашага селяніна ды сыпаліся грошыкі на збожную справу, моў з абтрасанай ураджайнай садавіны грушы!... І сяньня здаецца бачу Вас, роем увіхаючыся, прапануючы бліскучыя, забаўныя фанты ды заахвочваючы гасьцей да ахвярнасьці на рэмонт падупаўшай вашай сьвятыні!...

Пасьля дружны гоман, рух, звон пілаў, стук сякераў, з-пад якіх з трэскатам ды скрыгатам сыпаўся стары, збуцьвелы, гонтавы дах... Трэба бо было за кароткі, з прычыны непагоды, час пераадзець сьвятыньку ў новую прыгажэйшую цынкаваную вопратку к вялікаму сьвяту. Хай Бог цешыцца і людзі, гледзячы, якім пашанаваньнем абдараюць уніяты далятычане Божы Дом ды Божы дзень... Калі Ўзьвіжаньне—то ўзьвіжаньне!Калі абнаўленьне—то абнаўленьне!...

А сам той крыж, сколькі турботаў каштаваў ён Вам! Адшуканьня дуба ў зглумленым панскім лесе, дастава яго з прыгодамі ламаньня прыладзьдзя. А ачэска, габлярка ды надпіс, прыхваціўшыя і ночы кусок?...

——

Але вось гатова ўжо ўсё! Устае нарэшце чаканы памятны дзень. Вясёлы ясны дзень з пазахмарнае туманнае асеньняе негадзі, як-бы вяшчун новае пагоднае багаслаўленае пары...

Перад нязьлічанымі грамадамі, напоўніўшымі царкоўную вуліцу і цьвінтар, адчыняюцца царкоўныя дзьверы. І, о дзіва! Ня тая царква! Іконастас адмалёваны, як новенькі ды ў вянкох і жывых кветках аж гарыць красою колераў. Скляпеньні, сьцены, ўсе іконы, прастол — таксама ў вянкох і красках. Казаў-бы ўся квяцістая, каласістая, чароўная восень з сваімі жоўта-румянымі кляновымі лапамі-лістамі ды нардзелымі рабінавымі грозьдзямі пацерак павісла гэтта над Божым тронам дзеля большага выкрасаньня з соннае, сумнае беларускае душы іскраў чэсьці, радасьці і любові...

Госпадзі! Госпадзі! Ну і разьлілася-ж радасьць і чэсьць тая па ўсім храме чароўнымі, захапляючымі, паднебнымі тонамі літургічных хоральных акордаў ды пушыстымі вобалакамі ўпаяючага ладану, уносячымі думкі і ўздыханьні малебнікаў у над'земныя раскошныя прасторы Нябеснага Валадарства!...

——

Пасьля літургіі — у царкве рух, сумятня. Рыхтуецца крэсны ход. Раптам — цыц! Моў маланка нявідная электрызуе ўяву прысутных і ў адзін бліскавічны мамэнт закоўвае ўсё і ўсіх у сталёвую нярухомую цішу. У дзьвярох царскіх ціхусенька, незаметна, бы таёмны дух, зьяўляецца чорная высокая постаць у залацістым епітрахілі. Ціша. Чаканьне. Але слоў яшчэ ня чутно, толькі паглядам натхнёным гыпнотызуе замёршую ў чаканьні аўдыторыю...

— „Блізу паўтары тысячы гадоў назад, — пачынае ціха, але важна і выразна, — Алена сьвятая, маці Вялікага Канстантына, знайшла пад руінамі старое, збуцьвелае, паганскае культуры Крыж Хрыстовы—знак збаўленьня чалавецтва. Узяла разам з падданымі сваімі Алена крыж той і, збудаваўшы трон у маестатычнай сьвятыні Гробу Хрыстовага, узьнясла высока на троне тым найсьвяцейшы сымболь адраджэньня, знак злучэньня слабой волі чалавечай з усемагутнай Воляй Божай, ды агаласіла яго сьцягам прыватнага і дзяржаўнага жыцьця.

І павёў той сьцяг народы праз доўгія вякі і каляіны крутыя гісторыі аж на небасяжныя вышыны культуры і цывілізацыі...

Калі-ж узабраўся чалавек па крыжовай драбіне культуры на шчыты цывілізацыі ды пачуў у сабе вялікія здольнасьці — паўтарылася ўзноў трагічная гісторыя Люцыпаравай пыхі: „Ня буду служыць Табе!“... Волю Божу сучасны

„пан сьвету“ стаптаў. Крыж разбурыў і адкінуў з пагардай, як непатрэбную прыладу.

Але разам з тым крыжам рухнула і цывілізацыя. Нічога не памаглі „паступовыя“ падпоркі-выдумкі — будова грамадзкая і эканамічная, пажыраная полымем дзікай рэвалюцыйнай ненавісьці, з жахлівым ломатам валіцца на дно Антыхрыставага бяздоньня...

Ды ня ў тым трагэдыя, што гіне бунтарная, бязбожная, бязглуздая цывілізацыя новачасная, ўсё бо тое, што спляміліся зьнявагай свайго Стварыцеля, носіць на сабе кляймо няўхільнай гібелі; а ў тым бяда, што заваліць яна можа сваімі руінамі, нашу зорку пуцяводную, знак нашага збаўленьня.

„Крыж ратаваць! — чуцён кліч трывогі сяньня зусюль. Бараніць хрысьціянскія падставы ладу!!... Цэркву ратаваць Хрыстову! Адваяваць ёй чым хутчэй уплыў на публічнае жыцьцё, бо згінем!!“...

І хто-ж першы адклікнецца на ратунак!?...

Аўдыторыя пад такім уражаньнем, як-бы хто гвалтоўным імпэтам яе кантузіў.

— „Браты Хрысьціяне! — кажа далей натхнёны прамоўца. — Ідучы ў гэную сьвятыню, бачылі вы на сьцежцы магутны дуб, як, распрануўшыся з грубое кары свае, на пасьцелі ўласных трэсак ляжыць беленькі, распасьцёршыся ў знак крыжа. Ці гэта той дуб векавы, цар пушчы, сымболь нашага народу беларускага? Ці гэта той крыж, які ратаваць нам трэба? Як і адкуль узяўся ён тут? — Спытайцеся ідэйнай уніяцкай моладзі далятыцкай...

—Далятычане (зыходзячы з клірасу)!! Гэй, за мною ўсе! Абнімем, прытулім да сэрца ды падымем сьцяг наш на плечы, як Спасіцель! Пакаштуем салодкага цяжару ягонага! Панясём раём, бы мурашкі, не дамо патануць яму ў Антыхрыставым сучасным бяздоньні! Панясём ды падымем высока на прыгатаваным з нашых сэрцаў троне! — Хай вядзе нас! — Хай лечыць і лучыць! — Хай валадарыць! — Хай лікуе-трыумфуе!!!“...

——

— „Во, гэта будзе запраўдны крэсны ход, — казалі, выходзячы з цэркви, мужчыны. — гэта будзе запраўднае ўзьвіжаньне...

Загрымела песьня, закалыхаліся харугвы. Грамады, высыпаўшыя на цьвінтар, абступілі з багавейлівасьцю крыж.

—„Хлопцы — першыя!“ — раздалася паважная каманда галавы-казнадзея. І ўсхібнуўся ўрачыста з зямлі наш хрышчоны дубочак на плячох маладзецкіх ды паважна рушыў за харугвамі, а за ім, на хвалях песьні,—мора народу...

— Вось якая толькі сіла здолее злучыць разьядналыя хрысьціянскія душы, — падумаў-бы пастаронны наглядчык: **шчырае набожнае нясеньне крыжа Хрыстовага... З суполь нага набожнага чыну прыдзе злучэньне веры і гіерархіі!**

Дзяўчаты зьмяняюць хлопцаў!

Вянком рознаколерным абкружылі дзяўчаты хлопцаў, адбіраючы ў іх сьвятую ношу. Аддаюць яе пасьля па загаду жанчынам, а тыя — мужчынам. Сьмех уцешлівы браў, гледзячы, з якою ахвотаю падстаўлялі пад сьвячонае ярмо Хрыстовае спрацаваныя плечы старцы і бабулі, верачы, што ад дотыку сьціхне боль.

Прышлі на прызначанае месца. Устанаўляецца ля адумысловага аўтарыка на скорую руку парадак. Рынак вybрукаваны людзкімі галовамі. Вочы ўсіх бягуць у цэнтр.

Пажарнікі бусакамі возьмуць пад крыльля! І... ўгару! Раз, два!...

І вось тут, — глядзі мілы чытачу, — настае, нямаючая роўных сабе, ўзрушаючая хвіліна: калі ад напружаных маладых мускулаў пачалі над морам узбуджаных галоў уздымацца паволі багаславячыя крыльля крыжа, трэба было глянуць толькі на тыя тысячы раз'іскраных вачэй ды грудзей расхваляваных: казаў бы разам з крыжам тым і душы зьлітыя, споеныя ў адзін гарачы, сталёвы акт волі, то спушчаліся, то ўздымаліся вышэй і вышэй...

Слава Тебѣ, Христе Боже, упованіе наше, слава Тебѣ!... Ці-ж ня сталіся бо душы тыя „едино"?...

Яшчэ адзін, другі дзьвіг, зварот туды-сюды і стаў на жаданай точцы. Сьвяшчэньнікі кінулі першыя жмені зямлі і аддалі лапаткі засыпшчыкам. Абмацавалі кругом фундамант пад гукі адпаведнага малебну. Абсадзілі памяткавымі дрэвамі.

Усё, здаецца, гатова.

— Не, ня ўсё. Над морам спацелых галоваў выплывае зноў тая высокая чорная постаць у залацістым епітрахілі.

— „Братіе! Ці ж слоў маіх яшчэ трэба, калі сама хвіліна за сябе гаворыць!?... Навукі ад мяне чакаеце? — Вось нашая навука, — паказваючы на новы крыж, — вось першае і апошняе слова мудрасьці: крыж-сымболь нашага збаўленьня — Адвечная Праўда.

Але гляньце, мілыя. Праўда гэта—расьпятая. Хто-ж яе расьпяў? — Мы! Мы, хрысьціяне. Адны цягнуць за адну руку Хрыста і кажуць, гэта наш Хрыстос, а другія за другую і кажуць, гэта наш. І так мучыцца бедная Праўда Хрысьціянская, ня могучы зыйсьці з крыжа ды жыцьцё нам шчаснае ўладзіць. Раздваеньне і сварня братняя, рэлігійная і грамадзкая тармозіць справу нашага адраджэньня, нашага збаўленьня.

Нязгоды гэтай насеяў нячысты дух паміж нашымі пра-

дзедамі і вось каўтун той аж да сяньня гнязьдзіцца ў нашых душах.

Тысяча гадоў добра было ўсім хрысьціянам збаўляць свае душы Божай ласкаю, чэрпанай у аднэй гіерархіі. Нікому ня шкодзілі нацыянальныя, абычаёвыя ды абрадныя розьніцы. Аж раптам зьявіліся ў Божай аўчарні нягоднікі, якія для мэтаў палітычных, прыземных пачалі капаць глыбокую яму сварлівае розьні, пачалі шырыць бунт, ненавісьць адных да другіх Ня будзем разводзіцца, калі, дзе і хто быў тымі шкоднікамі. Карысьці вялікай нам гэта не прынясе. Для нас найважней вынікі варожага разьяднаньня: няволя грубога цэзарапапізму, упадак духовых сіл хрысьціянства, слабасьць характараў, выветраньне ідэалаў бязладзьдзе, сэктанскае самадурства, цемната, а з імі разам дзікае каўтунскае бязбожніцтва...

Брацьця мілыя! Зьлітуймася-ж над Хрыстом і Царквой Ягонай! Брацьця! Ці чуеце, як жаліцца і моліцца, там на Гольгофе?

„Канаю! Прагну!... Прагну адзінства і згоды дзяцей маіх!... Прагну іхняга збаўленьня і шчасьця! **Да вси едино будутъ**“...

Адзінства! Адзінства і злучэньня, браты і сёстры наймілейшыя! Калі ня сяньня, то калі-ж зьявіцца тое найсьвяцейшае жаданьне!?...

Гора нам, мілыя, калі не пачуем голаду ў душах нашых, голаду любові і злучэньня, ды калі голадам тым не заразім усяго нашага краю!...

Багаслёўнымі-ж будуць няхай нашыя сьвятыя парывы!!...

І яшчэ слаўцо.

Ужывае раз бедная, канаючая ўдава паслугаў набожнага духоўніка з Апошняю Пацехай Сьвятых Тайнаў. Калі, споўніўшы сьвяты абавязак, слуга Божы падаў руку да разьвітаньня, схапіла і затрымала, сьціснуўшы, руку тую небарака: „Яшчэ ня ўсё, Дастойны Ойча, прашу быць сьведкай майго тэстамэнту.“

— Дзеткі мае, — зьвяртаецца дрыжачым голасам да, абступіўшай ложка, заплаканай грамадкі, — матчынае сэрца маё, дагараючае вось на аўтары ахвярнай любові, не пазваляе мне пакінуць вас з голымі рукамі. Праз цэлае жыцьцё хавала, вось, для вас, мілыя, найцаньнейшы скарб, які мне саладзіў маё гаротнае жыцьцё, і які вам напэўна саладзіціме горкае сіроцтва“...

Сягае дрыжачаю рукою пад падушкі і... і дастае старэнькі, відаць прадзедаўскі, крыжык...

„Вось вам па матцы вашай насьледзтва. Не маракуйце: цаньнейшага скарбу не знайдзеце на сьвеце! Гэта мой апошні тэстамэнт“ — дакончыла, канчаючыся, сама...

Якім-жа нас, браты, абдарае тэстамэнтам сяньняшняя ўрачыстасьць?

Вось скарб (узносячы рукі да крыжа), якім абдарае нас, натхнёная ласкай Божай, хвіліна!...

Айцы-узгадаваўцы склапочаныя, і маткі! Сыны маладыя і дачушкі, шукаючыя дарогі! А найбольш Вы, сіротанькі! — Бярэце — дзякуйце —разьбірайце! Даражэце — сьцеражэце — карыстайце! А доля ваша ніколі вам ня згоркне. Амін".

— —

Мінуў вось ужо год. Невялікі гэта час, праўда. А сколькі-ж хмараў грозных ужо праняслося над нашай зямлёю ды над нашай ідэяй!...

Сьцяг-жа уніяцкі, глыбока ўмацаваны ў сэрцы. Далятыч, стаіць непарушна. І...

Хай хмара навісьне над соннай зямлёю,
Хай гора прыцісьне жалезнай рукою,
Свайго-ж мы сымболю—сьцягу лепшай долі
Ня здрадзім ніколі, ня здрадзім ніколі!

*Надбужны.*

---

# Наш адказ.

У № 48 варшаўскае „Слово," апіраючыся на „Молву," перадае, што, калі ў Пінску 1 верасьня с. г. разам з 8 сьвяшчэньнікамі і 2 дыяканамі адпраўляў сьв. Літургію Я. П. Япіскап Чарнэцкі, там прысутных было толькі некалькі чалавек.

Гэта няпраўда. Служба выпала вельмі ўрачыста і прыгожа, хор сьпяваў вельмі добра і прысутных было ня некалькі чалавек, як кажа „Слово," але некалькі сот чалавек. Ведаю аб гэтым добра, бо сам меў шчасьце быць прысутным на гэтай сьв. Літургіі.

---

На другую рэч яшчэ зьвярну ўвагу. „Слово" на гэтай-жа самай бачыне падае з абурэньнем, што сьвецкія польскія ўлады разабралі сьцены будуючайся капліцы ў сяле Спасе, каля Холма. Прычына здаецца быць яснаю: чытаем у гэтай стацьці:

„каб будова капліцы ня трапіла на перашкоду з боку мясцовай цывільнай улады, дык прадстаўнікі праваслаўнага жыхарства зьвярнуліся да мясцовай гміны з просьбай аб пазваленьні на будову, на гэта старшыня (войт) гміны адказаў афіцыяльна што з боку гміннага ўраду перашкодаў няма, але, што на будову дазволу трэба прасіць у Вышэйшае Духоўнае Улады. Такі дазвол быў дадзены Яго Б. Уладыкай Мітрапалітам 9 жніўня с. г. за № 7542."

На такім дазволе апіраючыся, рэвалюцыйным спосабам за адзін дзень паставілі капліцу.

Падумайце, браты нязлучаныя праваслаўныя, ці ўсё было ў парадку адносна да пазваленьня? Каму ў галаву можа прыйсьці зьвяртацца па пазваленьне на будову капліцы да войта, а калі камусьці прышло, дык гэта значыць, што такая галаза ня вельмі моцная. Ня можна на такім пазваленьні апірацца і таксама вінаваціць кагосьці, што такога пазваленьня не прызнае.

Пазваленьне Духоўнай Улады павінна быць, але таксама справядліва патрабуецца і дазвол з боку цывільнае ўлады.

Браты, нязлучаныя праваслаўныя, ці не ляпей было-б скончыць з усімі гэтымі, гэтак кажучы, рэвалюцыйнымі спосабамі барацьбы? Былі выпадкі нажаль і з нашага боку, некаторыя духоўныя, каторым вельмі падабаўся гэты рэвалюцыйны спосаб праводжаньня уніі, гатовы былі захапляць праваслаўныя хаця калісьці і уніяцкія цэрквы, але кіруючая каталіцкая царква заўсёды была проці такіх мэгодаў. Мы таксама рашуча выказваемся проці мэтодаў захопу.

Здараліся выпадкі і могуць здарыцца, што некаторыя працаўнікі за справу аб'яднаньня хрысьціян, або яе прыхільнікі пасунуць сваю старанлівасьць задалёка, мы-ж павінны не заахвочваць да гэткіх дзеяньняў, а ўстрымліваць.

На бачынах праваслаўнае прэсы часта сустрачаем заметкі аб скандальных сцэнах з захопліваньнем сьвятыняў, заахвочваньне да гэтых скандалаў.

Гэткім чынам вялікі клопат спраўляецца для сьвецкае ўлады і ствараецца вельмі прыкрая паміж людзьмі аднае вёскі барацьба.

Мы рашуча павінны выступіць проці такіх спосабаў супольнай барацьбы. Калі будзе паміж намі якая спрэчка, немагчыма пагадзіцца будзе палюбоўна (найляпей, каб гэта так было), маем суд, можам аддаць справу судзьдзям, але ніколі не павінны справы рашаць пабальшавіцку, падбураючы цёмны народ.

*Злучэнец.*

---

# Хроніка.

## З рэлігійнага жыцьця.

1. АБ УГАЛОЎНЫМ КОДЭКСЕ. З 1 верасьня увайшоў у законную сілу на ўсю Польшчу новы угалоўны Кодэкс. Дагэтуль было ў Польшчы аж 3 угалоўныя Кодэксы: аўстрыяцкі, нямецкі і расейскі. Цяпер з новым Кодэксам заведзена аднолькаасьць ува ўсёй Польскай Рэспубліцы.

Ня будзем крытыкаваць некаторых месцаў Кодэксу, агульна можна

толькі сказаць, што добра апрацаваны, бароніць галоўным чынам дзяржаву ад небясьпечных адзінак, таксама пагражае вельмі вялікаю караю ў абароне рэлігіі.

Прывядзем для прыкладу вельмі важныя 2 артыкулы:

Арт. 172. Хто публічна блюзьніць, мае быць пакараны вастрогам на 5 гадоў.

Арт 174. Хто знарок перашкаджае публічнаму адпраўляньню рэлігійных дзеяньняў, легальна прызнанага веравызнаньня або рэлігійнага гуртка мае быць накараны да 2 гадоў.

Бывае, што праваслаўныя нязлучаныя або навет каталікі, асьлепленыя бязбожжам, перашкаджаюць уніятам адпраўляць службу Божую або публічна маліцца, трэба тады ім прыпомніць артыкулы угалоўнага Кодэксу, а калі не паслухаюць, дык сьвецкая ўлада патрапіць змусіць іх да паслухмянасьці.

2. ЦУД СЬВ. ЯНУАРАГА. 19 верасьня сёл. году ў дзень урачыстасьці сьв. Януарага паўтарыўся ў Нэаполі (Італія) цуд ажыўленьня крыві гэтага сьв. мучаніка. Цяперашні цуд адбыўся з нязвычайнаю хуткасьцю, вітаны з вялікім захопленьнем 20 тысячнаю грамадою верных на чале з кардыналам архіяпіскапам гораду Нэаполю і прадстаўнікамі сьвецкіх уладаў. На вестку аб гэтым цудзе марская каралеўская артылерыя 20 разоў стрэліла з гарматаў.

# Усячына.

ПАМЁР КАРДЫНАЛ ВАН РОЗЗУМ. 30 жніўня памёр у Маатрыхце (Галяндыя) Кардынал Ван Роззум, прафэкт сьв. Кангрэгацыі Распаўсюджваньня Веры.

ПАМЁРЛА ЖОНКА П. ПРЭЗЫДЭНТА ПОЛЬСКАЙ РЭСПУБЛІКІ. 18 жніўня с. г. ў Спале каля Варшавы памёрла Міхаліна Масьціцкая. Прад сьмерцяю сьв. Баянак саборываў яе і так памёрла запраўды пахрысьціянску.

СТАТЫСТЫКА ЎСІХ ЛЮДЗЕЙ НА ЗЯМЛІ. Статыстычны гадавік Лігі Народаў на бягучы год падае найнавейшыя лічбы жыхароў зямлі. Агулам жыве на сьвеце 2.012 800.000 душ. У адносінах да ліку насяленьня мінулага году прырост выказваецца лічбаю 20.000.000 чалавек. Найбольш жыхароў мае Азія, больш як 1 мільярд. Далей ідзе Эўропа — 506.000.000 (у мінулым годзе 498.000.000). У Амэрыцы жыве напалавіну менш людзей, а ласьне 252 000.000, з чаго на Паўночную Амэрыку прыпадае 134.000 000, на Паўднёвую Амэрыку 83 000.000 і на сярэднюю Амэрыку 35.000.000. Што датычыць прыросту насяленьня, дык ён найбольшы ў Расеі, Польшчы і Гішпаніі. Англія і Нямеччына ня выказала ніякіх зьменаў, затое Францыя ў гэтым годзе выказвае на паўмільёна душ болей. Дзіўна, што ў Італіі, дзе Мусоліні ўсімі спосабамі пропагуе прырост насяленьня, аказалася цяпер паменшаньне радзінаў на цэлых 406.000. У Амэрыцы найбольш прыбыло насяленьне ў Злучаных Штатах, Канадзе і Бразыліі.



Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.

# Календар

на м—ц Кастрычнік 1932 г.

| Стары стыль. | | | Новы стыль | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
| | | КАСТРЫЧНІК | | | KASTRYČNIK |
| 1 | П | **Пакроў Пр. Багар.** | 14 | P | Kaliksta |
| 2 | С | Кіпрыяна | 15 | S | Taresy, Jadwihi |
| 3 | Н | *17 н. па С. С. Д.* Дзяніс | 16 | N | *22 p. pa S.S.D.* Gerarda |
| 4 | П | Ерафея | 17 | P | Marharyty |
| 5 | А | Харытыны | 18 | A | Łukaša |
| 6 | С | Тамаша ап. | 19 | S | Piotry z Alk. |
| 7 | Ч | Сяргея | 20 | Č | Jana Kantaha |
| 8 | П | Пелагеі | 21 | P | Uršuli |
| 9 | С | Якуба ап. | 22 | S | Korduli |
| 10 | Н | *18. н. па С.С.Д.* Яўлампія | 23 | N | *23 p.pa S.S.D.* Seweryna |
| 11 | П | Піліпа | 24 | P | Rafała |
| 12 | А | Прова | 25 | A | Kryspina |
| 13 | С | Карпа мч. | 26 | S | Ewarysta |
| 14 | Ч | Параскі | 27 | Č | Florecyja |
| 15 | П | Лукіяна | 28 | P | Symona i Tadeuša |
| 16 | С | Лёнгіна сотн. | 29 | S | Narcyza |
| 17 | Н | *19 н. па С.С.Д.* Андрэя | 30 | N | *24 p. pa S.S.D.*,Chr.Karala |
| 18 | П | Лукі ап. | 31 | P | Lucyli |
| | | | | | LISTAPAD |
| 19 | А | Іойла пр. | 1 | A | **Usich Światych.** |
| 20 | С | Арцема вм. | 2 | S | *Zadušny Dzień* |
| 21 | Ч | Іларыёна Вял. | 3 | Č | Huberta |
| 22 | П | Глікерыіі | 4 | P | Karala Bar. |
| 23 | С | Якуба ап. | 5 | S | Zachara i Alžbiety |
| 24 | Н | *20. н. па С.С.Д.*, Арэты | 6 | N | *25 p. pa S.S.D.* Leonarda |
| 25 | П | Маркіяна | 7 | P | Nikandra |
| 26 | А | Дзімітра В. | 8 | A | Gotfryda |
| 27 | С | Нестара | 9 | S | Todara |
| 28 | Ч | Параскевы | 10 | Č | Andreja |
| 29 | П | Анастасіі | 11 | P | Marcina b. |
| 30 | С | Зіновія | 12 | S | Marcina pap. |
| 31 | Н | *21 н. па С.С.Д.*, Стахея | 13 | N | *26 p. pa S.Św.D.* Stan.Kost |